CHRYŚCIJANSKAJA DUMKA

BIEŁARUSKI ČASAPIS — VYCHODZIĆ TRY RAZY U MIESIAC: 1, 10 i 20.

№ 20 (104) Vilnia, 1 lipnia 1939 h. — Wilno, 1 czerwca 1939 r. Hod XII

# DURNA J ŠKODNA

Majem na dumcy pašyrańnie niekatorymi, a moža navat i mnohimi asobami siarod biełaruskaha sialanstva j intelihiencyi biazbožnaści. Začali hetuju rabotu j šyroka jaje pravodzili ŭ nas kamunisty. Ciapier, praŭda, z hetym cišej, ale adnak nia susim.

My zaŭsiody ŭvažali j uvažajem siańnia hetuju biazbožnickuju rabotu j nierazumnaj i škodnaj.

Pašyrańnie biazbožnictva — reč nierazumnaja: čałaviek z natury razumny, a hetym samym i relihijny. Vykaranić relihiju z dušy čałavieka — reč niemahčymaja. Kali zabješ pačućcio relihijnaje adno jakoje, dyk na jaho miesca vyrastaje druhoje — časta ŭžo skryŭlenaje, destrukcyjnaje i nehatyŭnaje. Najlepšym hetaha dokazam — sam kamunizm, jaki ŭ sutnaści svajej jość relihijaj, vieraj, tolki što nie pazytyŭnaj i tvorčaj, a naadvarot. Dokazam niemahčymaści vykaranić relihiju ŭ čałavieka jość tak-ža j Francyja, jakaja niekali, paśla svajej vialikaj revalucyi, relihiju hetak sama praśledavała, jak i siańniašni kamunizm, a siańnia prymušana dać jej poŭnuju svabodu j bahata karystać z jaje pładoŭ.

Słovam, baraćba z relihijaj ahułam, a hetym samym i ŭ nas, jość rečaj nierazumnaj, a raz nierazumnaj, dyk i škodnaj.

1. Zamiest tracić enerhiju na baraćbu z relihijaj, lepš abiarnuć jaje na pazytyŭnuju pracu: nacyjanalnuju, kulturnuju, socyjalnuju.

2. Kali relihija nadužyvajecca palitykaj dla svaich metaŭ, varožych intaresam narodu, dyk nia z relihijaj, ale z henym nadužyvańniem relihii treba zmahacca. Treba ŭmieć i chacieć adroźnivać: relihiju j fikcyju relihii.

3. Relihija ŭ nacyjanalnym i socyjalnym ruchu adyhryvaje ahramadnuju rol i jana rodzić u ludziej idealizm, samaachviarnaść, hieroizm. Polski, litoŭski i ŭkrainski vyzvolny ruch jak-ža mnoha ab hetym havora! I jakuju-ž vialikuju škodu robiać biełaruskamu narodu tyja, jakija, zabivajučy ŭ narodzie relihiju, zabivajuć u im tyja vyšejšyja duchovyja elementy, biez jakich niemahčyma nijakaja vialikaja nacyjanalnaja, palityčnaja, socyjalnaja praca.

4. Zabivajučy ŭ biełaruskim narodzie relihiju, adbivajučy narod ad Cerkvy j Kaścioła, hetym samym ućviardžajecca tam stychija niebiełaruskaja. Časta možna spatkacca z zakidam, kali reč idzie ab spravu biełaruskaj movy ŭ našych śviatyniach: na što vam heta, kali-ž vy biazbožniki?!

5. Zabivajučy ŭ narodzie relihiju, zabivajucca j najvyšejšyja pryncypy etyki, jakija z relihijaj stulna źviazany. A čaho-ž vart narod, kali ŭ jaho niama etyki j čaho dobraha jon moža dačakacca?

Słovam, i nierazumna j škodna pašyrać siarod narodu biazbožnictva. Tyja, što heta robiać, pavinny zrevidavać i źmianić svaje da relihii adnosiny...

# *ЮБІЛЕЙ МІТРАПАЛІТА ШЭПТЫЦКАГА*

*Сёлета сьвяткуе ўмраінская грэка-каталіцкая Царква і ўвесь Украінскі народ няштодзенны юбілей — юбілей 40-годзьдзя біскупства валадара душаў Мітрапаліта Шэптыцкага. Каб дакладна пазнаць дастойнага Юбілята, трэба праступдыяваць гісторыю ўкраінскага адраджэньня наймені за апошнія 50 гадоў, бо Ягоная асоба й праца цесна злучана з украінскім адраджэньнем агулам.*

*74 гады жыцьця, у гэтым 51 год у законным габіце, 40 гадоў біскупства, 38 гадоў мітрапалітаваньня — гэта час бязупыннай і плоднай дастойнай працы сьвятара Андрэя Шэптыцкага ў Царкве й навокал Царквы дзеля агульнага дабра Украінскага народу й славы Царквы Хрыстовай. Вялікую працу Мітрапаліта Шэптыцкага адчуў і належна аценіў увесь Украінскі народ. І цяпер гэты народ з нагоды вялікага юбілейнага сьвята выяўляе дастойнаму Юбіляту сваё поўнае прызнаньне й шчырую адданасьць.*

*Пры гэтай нагодзе маем магчымасьць і мы, Беларусы, выявіць нашае глыбокае прызнаньне многацэннай працы Мітрапаліта Андрэя Шэптыцкага й Ягонаму хрысьціянска-братняму становішчу адносна Беларускага народу, а так-жа маем прыемнасьць пасласьць ад душы Яму нашае славянскае паздраўленьне — многія, многія, многія леты!*

## На царкоўным пагосьце

### З дзейнасьці «Prawosławnego Instytutu Naukowo-Wydawniczego» ў Горадні.

Пасьля дэкрэту Прэзыдэнта Рэчыпаспалітай з 19 лістапада 1938 г. аб праўным палажэньні Праваслаўнай Царквы ў Польшчы здавалася, што праваслаўна-царкоўнае жыцьцё паплыве сваім натуральным рэчышчам і ўнармуе ўсе ненармальнасьці, што паўсталі з прычыны паняволеньня ў мінуўшчыне Царквы чужацкай палітыкай у нашым краю. Сапраўднасьць, на жаль, разьмінаецца з гэткага роду спадзяваньнямі. Яна бяз спыну падае новыя факты, на якія вось тут і зварочваем увагу. У гэтым артыкуле разглядаем толькі тыя факты, якія паўсталі на царкоўным пагосьце і безпасрэдна ці пасрэдна даходзяць да беларускага праваслаўнага насельніцтва.

Так сталася, што апошнімі часамі галоўным асяродкам праваслаўна-царкоўнага і г. зв. царкоўна-грамадзкага жыцьця ў нашым Краю зьяўляецца Горадня. Там паўстаў *„Prawosławny Instytut Naukowo- Wydawniczy“*, які сваей дзейнасьцяй абымае ўвесь наш край. На выдавецкім грунце праца гэтага *„Instytutu“* праяўляецца між іншым у такіх часапісах: *„Przegląd Prawosławny“* (орган польскага праваслаўя) — месячны часапіс, выходзіць папольску, і *„Dwutygodnik Prawosławny“*, што выдаецца філіяй *„Prawosławn. Instytutu“* ў Вільні.

Заданьні *„Prawosławnego Instytutu“* паданыя ў гэтых часапісах такія:

*„Przegląd Prawosławny“* ў першым нумары цьвердзіць:— „Пачынаецца пэрыяд творчай працы, прабуджэньня сярод праваслаўнага грамадзянства пачуцьця прыналежнасьці да Польшчы, выдзяленьня ўплываў захопнікаў і тварэньня новых формаў грамадзкага ладу, датарнаваных да многіх грамадзка-культурных і палітычных зьявішчаў сучаснасьці... У граніцах Польскай Рэчыпаспалітай знаходзіцца **звыш 4.000.000 праваслаўных розных нацыянальнасьцяў**, у гэтым ліку 600.000 праваслаўных Палякоў. Усе павінны працаваць супольна й гармонійна, бо ўсіх злучае дабро Праваслаўнай царквы й любоў Бацькаўшчыны. Палякам праваслаўнага веравызнаньня прыпадае ў прызначэньні вялікая гістарычная місія, місія распырэньня й узмацненьня ня толькі праўды сваей веры, але граніц і павагі Польскай Рэчыпаспалітай“.

*„Dwutygodnik Prawosławny“* ставіць сабе такія заданьні: „Імкнёмся, каб Праваслаўная Царква апёрлася на магутны фундамэнт польскай дзяржаўнасьці й сталася трывалай носьбіткай польскай цывілізацыі й культуры. Мэтай нашай, каб старэйшае і маладое пакаленьне праваслаўнага народу шырока карыстала з скарбу польскай культуры“.

Вось размах, зусім як у Расейцаў, праваслаўна-царкоўнай і царкоўна-грамадзкай дзейнасьці *„Prawosławnego Instytutu“* ў Горадні. Заданьні вялікія й шырокія. Але непасільныя! Бо невялікі *„Prawosławny Instytut“*, апіраючыся на **лічбу 600.000** „праваслаўных Палякоў“, падымаецца выцывілізаваць папольску й накарміць польскай культурай 3 мільёны 400.000 з гакам праваслаўных Беларусаў і Украінцаў, якія агулам ня менш культурныя й ня ніжэй цывілізаваныя за самых „культуртрэгераў“, і зусім цьвёрда трымаюцца сваей нацыянальнасьці, сваей нацыянальнай традыцыі й агулам сваей нацыянальнай культуры.

Пры гэтым яшчэ раз трэба адзначыць, што праваслаўныя Беларусы ўжо даўно паставілі дамаганьне царкоўнай уладзе, каб навучаньне праваслаўнай веры ў царквах на тэрыторыі, дзе жыве беларускі народ, і ў школах, дзе вучацца беларускія дзеці, адбывалася ў іх роднай мове — пабеларуску. Гэтага дамаганьня Беларусы не зракліся й з такога становішча ня ўступаюць!

*Сідарчук*

---

*Nastupny numar „Chryścijanskaj Dumki“ vyjdzie z dadatkam dla dziaciej „Zorka“*

---

АД. СТАНКЕВІЧ

# ХРЫСЬЦІЯНСТВА І БЕЛАРУСКІ НАРОД [19)]

*(У 950-ыя ўгодкі Хросту Беларусі: 988/9—1938/9)*

## X

### Уніяцкая Цэрква ў расейскім пэрыядзе гісторыі Беларусі (XIX ст.) й яе роль адносна беларускай народнасьці

*Беларусь пад царскай Расеяй і яе доля. Маскоўскае праваслаўе й лацінска-польскае каталіцтва. Уніяцкая цэрква—апора беларускай народнасьці й культуры. Маскоўскія цары: Кацярына, Павал I, Аляксандар I і Мікалай I і іх адносіны да Уніі. Год 1839 і уніяцкія эпіскапы здраднікі. Роль у ліквідацыі Уніі еп. Семашкі, яго характарыстыка й адносіны да беларускай народнасьці й культуры.*

І так царкоўная унія ў першай палавіне пэрыяду заняпаду, у пэрыяд польскі, была злучвом беларускай нацыянальнасьці. Праўда, тое, чаго так Беларусы ў сваім часе баяліся,—польскасьць і лацінства насядала моцна на унію, але яна спачатку з гэтым усім баролася з добрым вынікам. Пасьля-ж пачала здавацца. Унія ўжо ў XVIII ст. была сільна сполёнізаваная й злацінізаваная. Але й цяпер уніяцкая цэрква прынцыпова не пераставала быць гэнай апорай і сродкам яднаньня беларускай нацыянальнасьці.

Урэшце прыйшла ў самым канцы XVIII ст. другая палавіна пэрыяду заняпаду Беларускага народу, пара расейская, калі ўсе беларускія землі пасьля разбору Польшчы адыйшлі да Расеі. Цяпер лёс беларускай нацыі аказаўся яш-

Što pišuć hazety?

## Čarhovaja sensacyja ab Biełarusach

*„Wiek Nowy“* nadoviačy nadrukavaŭ ab Biełarusach voś hetkuju sensacyju:

„U Hdansku adbyŭsia źjezd biełaruskich dziejačoŭ z Polšèy, Litvy, Estonii, Łatvii, Savietaŭ i Ameryki. Biełaruskich delehataŭ staralisia pierakanać, što niamiecki ŭrad **planuje stvareńnie niezaležnaha biełaruskaha haspadarstva** j što dziela hetaha Biełarusy pavinny padtrymlivać niamieckija namiery. Na zjeździe biełaruskim nia **było zhody**. Bolšaść dziejačoŭ z Eŭropy vyskazałasia suproć uprahańnia biełaruskaha narodu ŭ voz niamieckaje palityki“.

„Sutnaść spravy znachodzicca ŭ tym, što Niemcy najchuččej arhanizujuć prapahandnaje zmahańnie, i ŭ hetym zmahańni jość pryznačanaja niejkaja rola dla Biełaruskaje prablemy. Biełaruskija dziejačy ŭ Polščy ŭžo niekalki tydniaŭ tamu zvaročvali ŭvahu, što niamieckija ahienty starajucca zakinuć na ich svaje sietki(?) j vykarystać spravu biełaruskaj nacyjanalnaj mienšaści, ale dasiul biezrezultatna“.

Pieradrukoŭvajučy hetu hazetnuju sensacyju adznačajem, što biełaruskaje hramadzianstva, tut na miescy, u huščy biełaruskaha nasielnictva, hetkaha j padobnaha „namahańnia niamieckich ahientaŭ“ nie adčuvaje j nie zaŭvažvaje. A što da „źjezdu biełaruskich dziejačoŭ u Hdansku“, dyk ab im daviedvajemsia z dalokaj ad nas polskaj presy. Chto z Biełarusaŭ z Polščy byŭ na hetym „źjeździe“, polskaja presa nie havora, bo musić i sama nia viedaje. Z jakoj metaj padajucca takija viestki, dahadacca nia trudna. Pravilna zaŭvažvaje ŭkrainskaja presa, pieradajučy hetuju sensacyju: — „možna sabie ŭjavić, jakija naśledki dla Biełarusaŭ mohuć mieć hetkaha rodu viestki“.

## Plan supakoju

Pad hetkim nazovam u № 82 z 9.VI sioleta francuskaj hazety „Temps Présent“ spatykajem cikavy artykuł, jaki napisaŭ André Sidobre. Artykuł hety jość adkazam na zaklik św. Ajca z 2.VI sioleta da adkaznych palitykaŭ, kab „zapeŭnić stały supakoj i ŭzhodnić jaho z svabodaj i honaram narodaŭ“.

Voś-ža A. Sidobre miž inšym piša:

— Miž hrupaj dziaržaŭ tak zvanych biednych (fašysty j rasisty) i bahatych (demakraty) mahčymy try formy parazumieńnia:

1) Kapitulacyja. Heta značа napr. z boku Francyi dabravolnaja pieradača Tunisu j Džibuti Italii. Ale kožnamu jasna, što Francyja na hetki sposab parazumieńnia nia pojdzie nikoli.

2) Druhi sposab — heta zdavolić damahańni totalistaŭ (Niamieččyna, Italija, Japonija) koštam trecich dziaržaŭ. Heta sposab Miunchena, jaki davioŭ da trahiedyi Čechasłavackaj i jakoha dalej trymacca nia možna.—

Paśla hetych uvah, A. Sidobre padaje hetki plan parazumieńnia:

— 1) Rejestracyja hality j abaviazkavych patrebaŭ.

2) Mižnarodnaja arhanizacyja dziela stvareńnia vialikich mižnarodnych publičnych rabotaŭ, a tak-ža dziela harmanijnaha naładžańnia pradukcyi syraviny vialikimi arhanizacyjami, da jakich učaśniki byli-b dapuščany biaz uvahi na formu ich palityki j ekanomiki.

3) Stvareńnie mižnarodnaha emisyjnaha banku, jaki-b rupiŭsia ab pradukcyi j padziele zołata j ab vypuščańni hrošaŭ, miž jakimi byli-b tak-ža j hrošy ŭ abiehu mižnarodnym.

Demakratyčnyja dziaržavy, jakija ŭ svaich rukach majuć bolšaść syraviny j zołata, majuć mahčymaść ažyćciović hety vialiki plan i pieršy raz pahadzić mistyku z technikaj. —

Ad siabie možam dadać, što dumki sapraŭdy charošyja, ale, na žal, ludzi nie daraśli jašče da ich realizacyi. Vierym adnak, što niekali j da hetaha dojdzie.

## Ab niamiecka-savieckim pakcie nieahresii

*„Novyj Čas“* padaje z Anhlii voś hetkuju viestku:

— U Maskvu varočajecca niamiecki ambasadar, jaki praz niekalki dzion naradžaŭsia ŭ Berlinie. Niamieččyna starajecca ŭsimi siłami nie dapuścić Saviety da supracoŭnictva z Anhlijaj. Dziela

---

чэ цяжэйшым. Вышэйшыя слаі беларускага грамадзянства аканчальна пакінулі народ і перайшлі на старану Польшчы, зьмяняючы нават сваю беларускую нацыянальнасьць на польскую. Інтэлігенцыя так-жа цалком спольшчылася. Уніяцкая царква хоць не цалком, але мала без чаго, была так-жа ўжо спольшчанай й злацінізаванай. Тымчасам перад беларускім народам паўстала новая грозная небясьпека з боку расейскага імпэрыялізму й нацыяналізму, які Беларусі нясла, упрэжаная ў расейскую палітыку, расейская праваслаўная царква. Трэба памятаваць, што цяпер ужо было ня тое праваслаўе, што існавала ў Беларусі ад разьдзелу цэркваў (1054) аж да берасьцейскай царкоўнай уніі,— тады праваслаўе было вольным і незалежным, а гэтым самым і беларускім. Беларускім фактычна было праваслаўе, якое ня прыстала да уніі—й якое ўсьцяж аставалася ў Беларусі, хоць у нязначным ліку, існаваць вобак уніі. А сусім іншае праваслаўе цяпер ішло з Масквы — гэта было праваслаўе расейскае палітычнае, заборчае. Гэтакім яно рабіла й тыя астаткі праваслаўя беларускага, якога фрагмэнты ўсьцяж у Беларусі аставаліся. Гэтае праваслаўе агулам было ўжо тым, чым фактычна ў Беларусі было й польскае лацінскае каталіцтва.

І як ня дзіўна, — і ў гэтай цёмнай беларускай пустыні зоркай праводнай, што крыху сьвяціла ў цемры, была... уніяцкая царква.

Беларуская культура ў пач. XIX ст. мела яшчэ, хоць праўда незавіднае, але пэўнае прыпынішча ў зацішшы ўбогай, як і сам народ, уніяцкай царквы. Культура гэта нават у той час, калі унія ўжо была сполёнізаваная, усё-ж яшчэ апіралася на тэй-жа уніі, падтрымлівалася яе традыцыяй, падтрымлівалася яшчэ запасамі сіл даўнай яе мінуўшчыны, бо унія вякамі тварыла беларускую культуру ў форме кніг літургічных, малітвеньнікаў, трэбнікаў, кніг зьместу рэлігій-

## Nowyja j staryja plany Niamieččyny i K-o

Najbolšaja na śviecie „akcyjnaja supałka", u jakoj hałoŭnymi akcyjanierami jošć Niamieččyna, Italija j Japonija, a pabočnymi — Hišpanija, Vuhryja j Juhasłavija, asnaŭnuju metu maje:—**novy padzieł śvietu** z baryšami dla 3-ch vyšejaznačanych hałoŭnych akcyjanieraŭ. Sudziačy z taho, što ciapier adbyvajecca ŭ Eŭropie j Azii z inicyjatyvy hetaj „akcyjnaj supałki", śviet maje być pierabudavany na hetakich padstavach:

*Niamieččyna* abymaje pad svaju „apieku" j haspadarčuju ekspansiju siaredniuju i ŭschodniuju Eŭropu da hranic ciapierašniaha SSSR—h. zn. ciapierašniuju Polšč, Vuhryju, Juhasłaviju, Rumyniju, Baŭharyju, Litvu, Łatviju i Estoniju, *Italija* na supałku z Hišpanijaj zaŭładała-b Mižziemnym moram, Suezam, Hibrałtaram i „zaapiekavałasia-b" paŭnočn. Afrykaj i Hrecyjaj, *Japonija* zabiraje Kitaj i likviduje tam eŭrapejskija kancesii.

Hetkija voś palityčnyja plany trykutnika Niamieččyna—Italija — Japonija.

Hetym planam spraciŭlajecca [redacted] hetaha Niamieččyna vysłała ŭ SSSR svaju handlovuju delehacyju, jakaja mieła zaprapanavać Savietam zakľučeńnie palityčnaha dahavoru. Niamieččyna prapanuje Savietam zakľučeńnie paktu nieahresii z niamiecka-savieckim zabiaśpiečańniem prybałtyckich dziaržaŭ.

Anhlija z Francyjaj i ŭsie tyja dziaržavy, jakim pahražaje zadumany Niamieččynaj j Italijaj „žyćciovy prastor"..

Śpiarša plany hetaha trykutnika byli krychu inšyja. Niamieččyna spadziavałasia zneŭtralizavać Anhliju. Tady Niamieččyna źbirałasia da pachodu na eŭrapejski ŭschod, tady vyrastała ŭ Hitlera ŭkrainskaja j biełaruskaja prablema, tady tvaryŭsia j h. zv. **antykamintern**, ab jakim ciapier u presie ani ŭ Niamieččynie, ani ŭ Italii i ŭ Japonii ŭžo zusim nie ŭspaminajecca. Ale Anhlija pa hetkaj linii niamieckaj palityki nie pajšła j pačała svaju palityku akružvańnia Niamieččyny, čym zmusiła jaje da adstupleńnia.

Ciapierašnija, vyšejaznačanyja plany trykutnika vyrastajuć z prymusovaha pałažeńnia. Jany mohuć źmianicca, kali Anhlija źmienić svaju pazycyju. Niamieččyna ŭściaž starajecca dahavarycca z Anhlijaj i zdabyć sabie „volnuju ruku" na eŭrapejskim uschodzie. I kali heta joj udasca, ažyvić nanava **antykamintern** i—nakirujecca na ŭschod, hałoŭna ŭ SSSR. A kali Anhlija nie spakusicca, dyk Niamieččyna budzie šukać parazumieńnia z Savietami, kab realizavać vyšejaznačany ciapierašni plan trykutnika.

Ahułam, pałažeńnie ŭ mižnarodnym žyćci ciažkoje, napružanaje j patrabuje takoha ci inšaha vyrašeńnia, bo ŭ hetkim stanie, jak ciapier, doŭha tryvać nia moža.

## Anhielska - savieckija pierahavory

### Balšavicka - hitleroŭskaja kadryla

U Maskvie adbyvajucca anhielska - francuska - savieckija pierahavory, jakija nijak nia mohuć končycca. Anhlija z Francyjaj starajucca pryciahnuć Saviety da bloku demakratyčnych dziaržaŭ, kab supolna zmahacca z h. zv. „antykaminternaŭskim" sajuzam „mižnarodnaha fašyzmu". Saviety adnak nie vyjaŭlajuć svajej achvoty da baraćby z „antykaminternaŭskim fašystaŭskim" sajuzam i zakľučać sajuz z Anhlijaj nie śpiašajucca. Hałoŭnaj pryčynaj hetkaha savieckaha stanovišča jošć sprytnaja ihra niamieckaj dyplamacyi. Niamieččyna, kab nie dapuścić da anhielska - savieckaha sajuzu, spyniła praciŭsavieckuju ahitacyju j stavicca da S.S.S.R. na płoščy prymireńnia. Jana prapanuje navat niamiecka - saviecki pakt nieahresii j dobrasusiedzkaje mirnaje sužyćcio. Da čaho hetaja balšavicka - hitleroŭskaja kadryla daviadzie, pakaža budučynia.

## Vajenny kanflikt na Dalokim Uschodzie

Padčas, kali ŭ Maskvie tuha jduć pierahavory miž Anhlijaj i SSSR i kali Niamieččyna trymaje całuju Eŭropu ŭ naprużańni, Japonija na Dalokim Uschodzie pastupaje z Anhličanami j Francu-

нага й агулам прасьветнага. Унія ў гэным часе на нашых землях—гэта была сапраўды адзіная апора беларускай культуры, бо яна адна адзіная была зьвязана арганічна з народам і з патрэбамі яго душы, адна адзіная гэтай душы як магла і чым магла служыла. Усё-ж іншае тады было пастаўлена проціў гэтага народу. Гуляла паншчына на беларускіх землях і адбывалася між Палякамі й Маскоўцамі барацьба за душу беларускую. І толькі аж да дня свайго ўпадку душа Беларуса паддзержавана сваей вернай прыяцелькай уніяй трымалася пры жыцьці, ня трацячы ніколі надзеі на лепшыя часы, на сваё адраджэньне.

Аднак і на гэты раз ня было яшчэ уніі суджана на беларускіх землях разьвівацца й жыць далей. Дзьве сілы — Польшч і Масква—ў сваей палітычнай барацьбе за нас, у той час, у першую чаргу, як мы бачылі, хваталіся за рэлігію, робячы з яе аружжа сваей палітыкі. Ад гэтай палітыкі з боку Польшчы унія яшчэ сяк-так магла бараніцца, хоць-бы дзеля таго, што за яе ўступаўся Папа Рымскі й што народ беларускі агулам сваей мовай і народнай псыхікай, як мы ўжо ўспомнілі, значна розны ад народу польскага. Але шмат трудней было змагацца, ды бадай цалком немагчыма, з Расеяй. Маскоўскае царства, сіла якога ўсьцяж расла, урэшце ў канцы XVIII ст., між іншымі, усе беларускія землі далучыла да сябе, забіраючы іх ад Польшчы.

Пасьля далучэньня Беларусі да Расеі пачынаецца для яе гісторыі новы пэрыяд — расейскі. Вось-жа й унія, будучы цесна зьвязана з Беларускім народам пасьля ўплыву 243 гадоў свайго існаваньня, як убачым, разам з народам дзеліць свой лёс.

У 1795 за часоў царыцы расейскай Кацярыны наступіў аканчальны падзел Польшчы й уся Беларусь была далучана да Расеі.

Пасьля гэтага пры тэй-жа Кацярыне про-

zami zusim biezahladna. Japoncy, zaniaŭšy kitajskija pravincyi, prystupili da likvidacyi tam anhielskich i francuskich kancesijaŭ. Adnačasna pačalisia paŭtaracca na mandžurska-savieckaj hranicy i japonska-savieckija vajennyja kanflikty. Zrazumieła, što hetaje pastupańnie Japonii na Dalokim Uschodzie ŭtrudniaje ahulnaje pałažeńnie Anhlii j Francyi, ale adnačasna zmušaje Saviety da supracoŭnictva na Dalokim Uschodzie z Anhlijaj, što moža stacca niekarysnym dla Niamiečyny ŭ Eŭropie. Mahčyma, dziela hetaha, apošnimi dniami pastupańni Japoncaŭ adnosna Anhličan i Francuzaŭ złahadnieli j vyhladaje, što ŭsie tam nieparazumieńni mohuć być vyrašany novymi dahavorami. Z hetaha možna sudzić, što balšavicka-fašystaŭskaja kadryla, jakuju tancuje Stalin z Hitleram u Eŭropie, maje vodhuk i na Dalokim Uschodzie.

## Sprava Hdanska ŭściaž napružanaja

Sprava Hdanska dalej zvaročvaje na siabie ŭvahu całaha śvietu. Polšč svajho rašučaha stanovišča nie źmianiła. Niamieččyna ad svaich damahańniaŭ nie adstupaje. Kab nia źmienšyć „hdanskaha" j ahułam eŭrapejskaha napružańnia, usilna pracuje niamieckaja prapahanda na čale z ministram Gebelsam, jaki amal što dnia havoryć pramovy, piša ŭ hazety artykuły i ŭsio z adnym nastaŭleńniem: pierakanać Anhliju, kab jana pierastała miašacca ŭ eŭrapejskija spravy j pakinuła dziaržavy siaredniaj Eŭropy sam na-sam z Niamieččynaj. Vystupaŭ min. Gebels i ŭ Hdansku, dzie ŭ svajej pramovie vostra pastaviŭsia da Polščy z pryčyny jaje stanovišča adnosna Hdanska, a pachvaliŭšy bajovuju vartaść niamieckaj armii zajaviŭ, što niachaj śviet viedaje, što Hitler, kali štoś raz skazaŭ, dyk ad taho nikoli nie adstupić i ŭsie svaje zajavy daviadzie da kanca.

# BIEŁARUSKAJA CHRONIKA

**Dr. St. Hrynkievič atrymaŭ naharodu.** Viedamaja ŭ Polščy navukovaja fundacyja im. praf. Radziviłoviča pryznała sioleta pieršuju naharodu za całaść navukovaje pracy z haliny psychijatryi j neŭralohii viedamamu biełaruskamu dziejaču, doktaru medycyny Stanisłavu Hrynkievič. Dr. St. Hrynkievič dasiul napisaŭ z haliny psychijatryi j neŭralohii 16 pracaŭ. Apriača taho dr. St. Hr. maje vydanych niekalki biełaruskich knižak z haliny ahulnamedycynskaj, kulturna-aśvietnaje j litaraturnaje. Pavažanaha Laureata vitajem i žadajem dalejšaje płodnaje pracy jak na nivie medycynskaj tak i biełaruskaj.

**Śmierć L. Kulešychi.** 21.VI.39 pamiorła ŭ Vilni hram-ka Lela Kulešycha z domu Menkaŭ. U svaim časie śv. p. L. Kulešycha brała dziejnaje ŭčaście ŭ biełaruskim ruchu. Miž inšym pracavała ŭ Biełaruskim Teatry. — Viečny Joj supakoj!

**Revizija.** 20. VI. 39 h. u Vilni palicyja zrabiła reviziju ŭ biełaruskaha dziejača dr. J. Stankieviča.

**Navukovaja zborka Biełarusaviedy.** U suviazi z letnimi kanikułami ŭ studentaŭ, a tak-ža dziela taho, što niekatoryja bieł. studenty majuć pravodzić roznyja navukovyja pracy na vioscy, T-va Pryjacielaŭ Biełarusaviedy ładziła 24.VI.39 specyjalnuju zborku pryśviečanuju navukovaj pracy ŭletku.

**Novyja biełaruskija praŭniki.** Nadoviačy končyli navuki na praŭnym fakultecie Vilenskaha Universytetu Biełarusy: Vacłaŭ Papucevič, Vinceś Skłuboŭski i Vasil Plaskač i atrymali tytuły magistra praŭ i hramadzkich navuk. — Vitajem ich i žadajem płodnaje pracy na biełaruskaj nivie!..

**Lekcyja Chv. Iljaševiča.** Bieł. paet i nastaŭnik mgr. Chv. Iljaševič pračytaŭ anahdaj u Vilni ŭ Bieł. Navukovym T-vie, a tak-ža ŭ polskim T-vie Pryjacielaŭ Navuki lekcyju na temu: „Nastaŭnik i jaho vučań" (narys biohrafii mastaka XVIII st. A. Hrušeckaha).

**Baćki Biełarusy! Vučycie svaich dziaciej čytać i pisać pabiełarusku!**

ціў уніі павёўся ўжо выразны й цяжкі прасьлед. Усе уніяцкія епархіі, апрача аднэй так званай беларускай у Полацку, былі скасаваны. Расейскі ўрад уважаў тады, што ў Расеі маюць рацыю быту веры — праваслаўная, зразумелая рэч, — і каталіцкая, лацінскага абраду, а унія аставацца не павінна, бо з яе, праўда, пераходзілі ў лацінства, што яшчэ Кацярына магла цярпець, але магло стацца й так, што з праваслаўя маглі пераходзіць у унію. У рэзультаце расейскай у гэтым часе палітыкі за ўвесь час царстваваньня Кацярыны з уніі у праваслаўе было пераведзена да двух мільёнаў Беларусаў і Украінцаў.

За часоў цароў Паўла І і Александра І палажэньне уніятаў значна палепшылася. Так напр. у 1806 г. у Полацку была яшчэ нават заложана уніяцкая духоўная сэмінарыя.

Аднак агулам націск расейскіх цароў на унію ўсьцяж узмагаўся й гады яе там існаваньня былі ўжо палічаны. Рашучы для уніі мамэнт настаў за часоў цара Мікалая І і епіскапа адступніка уніяцкай літоўскай (віленскай) епархіі Ёсіфа Семашкі. У гэтым часе уніяцкая цэрква мела яшчэ дзьве беларускія епархіі з сталіцай епіскапскай у Жыровіцах: віленскую й полацкую.

Мікалай І быў адкрытым ворагам уніі й усякімі спосабамі імкнуўся да яе ліквідацыі. Скрыта, але так-жа рашуча памагаў яму ў гэтым успомнены Семашка з такімі-ж адступнікамі, як і сам, — епіскапамі уніяцкімі — Ант. Зубко й Базылім Лужынскім. Гэтая дабраная тройка, апіраючыся прадусім на паліцэйскіх уладах, ліквідавала унію ўсімі сіламі.



## Ab biełaruskaj relihijnaj pieśni

Biełaruskaja relihijnaja pieśnia adžyła ŭ Vilni na Kalvaryi. Kalvaryja — heta vialiki symbol našaha biełaruskaha adradžeńnia j biełaruskaha žyćcia. Jak naša pieśnia na Kalvaryi pračnułasia, tak i naša žyćcio z henaha śviatoha miesca nabiare sabie mocy j tryvałkaści da zmahańnia z buraj i niepahodami. U našych pieśniach na Kalvaryi bačyłasia charastvo biełaruskaj dušy j čułasia siła biełaruskaha duchu. My hordyja svajeju pieśniaj, razumiejem i cenim jaje. Zatoje z vialikim naciskam i pryhoža jana ŭ nas vychodzie! Toj razumieje biełaruskuju pieśniu, chto piaje jaje!

Ad pačatku j da kanca mnie padabałasia biełaruskaja pilihrymka ŭ Kalvaryju. Ja chadziŭ z jeju j duša maja ciešyłasia. U Vilni my strojnymi radami vyšli na vulicu i zapiajali svaje biełaruskija pieśni. Mnohich ludziej naš śpieŭ zacikaviŭ. Jakaja heta pilihrymka?—pytalisia nas na každym šahu. Z kaścioła śv. Mikałaja ŭ Kalvaryju išli my paŭtary hadziny, a pry kaplicy Balesnaj Maci Božaj adpačyvali my paŭ hadziny. Adrazu za kryžom išli dzieci, paśla try ksiandzy j za imi narod, moładź i starejšaje hramadzianstva. Słovam, — heta pradstaŭniki — usiaho Biełaruskaha narodu. Usie piajali duža ščyra.

Na pieramienku pry kožnaj stacyi pamahali ksiandzy j ludzi na pieramienu z ksiandzom havaryli paciery. Hetak było da kanca Kalvaryi.

Byli na heta pryčyny, što biełaruskaja relihijnaja pieśnia na mnohija hady ŭ nas prycichła, my pra jaje, byccam, zabylisia. Jość rečaj peŭnaj, što heta pieśnia ŭ našym narodzie kaliści žyła j daloka hrymieła. Siahońnia, kali narod adradžajecca, to j pieśnia jaho adžyła. Heta my bačym usiudy, nia tolki na Kalvaryi.

Relihijnych u nas pieśniaŭ chapaje, tolki nam treba piajać ich! U pieśniach našych znachodzim my vialikaje charastvo j mahutny ich źmiest. Jak prykład hetaha, chaj tut pasłuža biełaruskaja suplikacyja:—Ad vajny bratniaj,što hromam nas tryvoža... Ad praroka, što zhubu nam varoža... Ad buraŭ, što hradam bjuć u poli zboža... J ad žyćcia, jakim žyć narod nia moža.,. Ad ciomnaj siły, što ducha nam tryvoža... Barani nas Boža! —

Knižyca „Uspamin z Kalvaryi“ daje nam 14 pieśniaŭ, jakija nam duža lohka piajać. „Hołas Dušy,“ knižyca, jašče bolš padajeć nam biełaruskich relihijnych pieśniaŭ. A ciž u nas Biełarusaŭ na hetym kaniec? Mnoha relihijnych pieśniaŭ ľažyć u rukapisach i čakaje svajho vydaŭca. Biełaruskuju relihijnuju pieśniu raźvivać nam treba dalej. Narod užo piaje svaje pieśni j piaje z hłybokaha pierakanańnia, z haračaj luboŭju da rodnaj svajej pieśni. Heta my najlepš niadaŭna u Vilni bačyli.

Ale viarnuŭšysia z Vilni, nam nielha zabyvacca pra svaju rodnuju pieśniu, — dalej nam jaje raźvivać treba, kab na druhoj kalvaryi jašče zapiajać jaje. Relihijnaja pieśnia naša sapraŭdy jość asałodaj našaha žyćcia, jość krynicaj našych duchovych siłaŭ. Piajać nam biełaruskija relihijnyja pieśni ŭsiudy j zaŭsiody treba, pry našaj pracy i ŭ adpačynku, u śviaty i ŭ budnija dni, na chaŭturoch i pry našych viaskovych nabaženstvach.!

Tak pryłažyŭšysia da biełaruskaj relihijnaj pieśni, my zmožam šmat čaho zrabić i ahułam dla biełaruskaj spravy. A tam, hdzie nam da pieśni jakoj melodyja nie padabajecca, tady my hatovy stvaryć da jaje svaju ŭłasnuju melodyju. Bo j heta reč budzie nie ciažkoj, kali my ŭsiu dušu addadziom biełaruskaj relihijnaj pieśni.

Dyk, jak najbolš vučycca j piajać biełaruskija relihijnyja pieśni, kab hetym lepš pryhatavacca na druhuju Kalvaryju ŭ Vilni!

*V. D—a.*

---

*ПІЛЬНАЕ!* *ВАЖНАЕ!*

## *ПРЫЙМАЕЦЦА ПАДПІСКА НА АНТОЛЁГІЮ ПАВАЕННАЙ БЕЛАРУСКАЙ ПАЭЗІІ*

*Антолёгія—гэта збор выбраных лепшых узорных твораў паэзіі. У анталёгію беларускай паваеннай паэзіі увойдуць творы каля 50 паэтаў: усходніх і заходніх.*

*З мноства беларускіх савецкіх паэтаў у зборнік увойдуць паэты найбольш рэпрэзэнтатыўныя, нажаль у нас мала ведамыя. Сярод іх многа зліквідаваных камуністычнымі маскоўскімі уладамі. Першым чынам з савецкіх маладых паэтаў у зборнік увойдуць: Язэп Пушча, Уладзімер Дубоўка, Максім Лужанін, Алесь Дудар—Глыбоцкі, Уладзімер Жылка, Валеры Маракоў, Паўлюк Трус, Алесь Звонак, Уладзімер Хадыка, Міхась Чарот, А. Ушакоў, А. Александровіч, Пятрусь Глебка, Пятрусь Броўка, і многа, многа іншых. У журнале „Калосьсе“ некаторыя з гэтых паэтаў ведамы з перадрукаваных іхніх твораў.*

*З заходніх паэтаў у зборнік увойдуць творы Н. Арсеньневай, Міхася Машары, Максіма Танка, Хв. Ільляшэвіча, Міхася Васілька і іншых аўтараў.*

*У кнізе кожнага з паэтаў будзе папераджаць кароткая аўтобіографія або біографія і кароценькая характарыстыка яго творчасьці, а такжа будуць зьмешчаны многіх паэтаў фатаграфіі.*

*Апроч надрукаваных твораў, у кнізе чытач знайдзе на першых бачынах адпаведныя артыкулы аб беларускай літаратуры.*

*Кніжка фармату 21×15 см. налічаць будзе каля 300 бачын.*

*Кніжка выйдзе з друку у чацьвертым квартале сёлета. Рэдагуюць кніжку рэдактары і супрацоўнікі „Калосься“.*

*Дзеля таго, што выданьне кніжкі вымагае вялікіх коштаў, выдавецтва антолёгіі беларускай паваеннай паэзіі просіць усіх зацікаўленых парупіцца прыслаць падпіску.*

*Падпіска на адзін экзэмпляр „Антолёгіі“ ліча 5 зл. Па выданьні кніжка будзе даражэйшай.*

*Парупцеся прыслаць падпіску! Грошы перасылаць на адрас выдавецтва „Калосься“: Вільня, Завальная 1—2. Паштовы нумар разрахунковага пераказу „Калосься“ — 58.*

*Антолёгія беларускай паваеннай паэзіі павінна знайсьціся ў кожнай беларускай хаце, у кожнага беларускага інтэлігента, у кожнага Беларуса, у кожнага зацікаўленага справамі й развоем беларускай літаратуры чалавека чужой нацыянальнасьці.*

*Рупцеся прыслаць заказ—падпіску! Гэтым прысьпешыцца выданьне вельмі цэннай і патрэбнай кніжкі.*

*Рэдакцыя і выдавецтва*
*«Антолёгіі беларускай паваеннай паэзіі“*

## Z T-va Pryjacielaŭ Litvy ŭ Varšavie

9.VI sioleta ŭ Varšavie adbyŭsia ahulny schod T-va Pryjacielaŭ Litvy. Na schod pryjšło da 80 Palakoŭ. Staršynioj byŭ V. Roman. Spravazdaču ab pracy T-va zrabiŭ byŭšy senatar Zubovič. Spravazdaŭca miž inšym śćvierdziŭ, što z palepšańniem polska-litoŭskich adnosinaŭ palepšyli j varunki pracy T-va. Niadaŭna T-va vydała antolohiju litoŭskaj paezii, naładziła kursy litoŭskaj movy ŭ Varšavie, padtrymlivała bližejšyja adnosiny z litoŭskaj intelihiencyjaj u Varšavie j z pryjaždžaŭšymi z Litvy haśćmi, naładziła dva referaty ab Litvie j starałasia ŭčaśničać uva ŭsich imprezach, jakija datyčyli litoŭska-polskich adnosinaŭ.

Na budučyniu T-va pastanaviła: arhanizavać referaty ab Litvie, arhanizavać sekcyju moładzi, vydavać tydniovyja, a paśla j štodziennyja biuleteny, z jakich Palaki mahli-b zapaznacca z Litvoj, a Litoŭcy z Polščaj. Aprača hetaha T-va dumaje naładzić infarmacyjnaje biuro, jakoje pamahała-b litoŭskim turystam, lekaram i inš. znajšci patrebnyja sabie viestki, napr.: ab sanatoryjach, ab navukovych ustanovach i inš. T-va takža nadziejecca ŭvajšci ŭ znosiny z litoŭskim hramadzianstvam u Koŭnie.

Siabry hetaha T-va razumiejuć i pryznajuć ideały Litoŭcaŭ, što Litva musić być volnaj i niezaležnaj. Navat i ŭ statucie T-va skazana, što čas źmianiŭ žyćciovyja abstaviny Litvy j što treba tak-ža j Palakom adnosna Litvy pakinuć svaje staryja pahlady. Słovam, T-va heta imkniecca da dobraha sužyćcia Polščy z Litvoj, ale ŭžo nie na padstavach unii.

M. K.

*Ці выпісываеце і чытаеце Вы „Калосьсе“ — беларускі літаратурна-навуковы і грамадзкі квартальны часапіс? „Калосьсе“ ўжо выходзе 5-ты год. „Калосьсе“ павінна быць у кожнай беларускай хаце, у кожнага беларускага інтэлігента. Каштуе ўгод: у краі 2 зл., загр. 3 зл. 20 гр., асобны нумар—50 гр. Адрас рэд. і адм.— Вільня, Завальная 1—2.*

*Хутка выйдзе з друку кніжка 3 „Калосься“ за 1939 г. з вельмі цікавым і рознастайным зьместам.*

### Karotki ahlad

## Z žyćcia ŭ kałhasach pad Savietami

Pavodle zakonu ab kałhasach kožny siabra kałhasu abaviazany prarabić aznačany lik pracadnioŭ. Hetak pastanaŭlaje kamunistyčnaja partyja. Katory kałhaśnik nie vykanaje hetaj pastanovy, taho z kałhasu vyklučajuć. Takaja pastanova mieła abaranić kałhasy ad vyzysku hultajoŭ, jakija nie aruć, nia siejuć, ale zyski z kałhasu zabirajuć.

Hetak pradstaŭlajecca sprava ŭ teoryi. Ale niazvyčajna cikavaja vytvaryłasia na hetaj padstavie praktyka. Ab joj balšavickaja „Pravda“ piša voś jak: — Heta dziejecca ŭ upravie kałhasu „Varašyłaŭ.“ Prad stałom staršyni kalektyvu kalejka, što prychodzić kuplać „pracadni.“ Staršynia pytaje interesanta: Kolki? Dvaccać dzion, kali možna! — Płaci! Interesant płacić 64 rubli, bo „pracadzień“ u kalektyvie pradajecca pa 3 rub. 20 kap. Kasa vydaje pakvitavańnie, a ŭ kancelaryi zapisvajuć, što taki to kałhaśnik adrabiŭ 20 dzion. Taki handal adbyvajecca adkryta j za viedama rajonnaha addziełu kamunistyčnaj partyi. Takim čynam hultaj, kali maje hrošy, moža kupić sotni „pracadzion“ i stacca „ŭdarnikam,“ jakich savieckaja ŭłada hanaruje adznakami za pracavitaść, a sumlenny kałhaśnik, što nia zmoh z pryčyny fizyčnaj słabaści adrabić vyznačanych „pracadzion“ i nia mieŭ hrošaj, kab ich prykupić, na padstavie kamunistyčnaha zakonu vykidajecca z kalektyvu.



## Formy nacyjanalnaj baraćby ŭ Niamieččynie

Z niamieckaha pahraničča padajuć hazety ab hetkaj voś formie baraćby Niemcaŭ z polskim nasielnictvam. I tak: pa niamieckaj staranie ŭ m. Kleščyni vybity ŭsie šyby j navat vyrvany ramy z vakon u tamašniaj polskaj bibliatecy j škole. Z m. Šviente niamieckaja administracyjnaja ŭłada vysieliła polskaha sielanina Kavalskaha. U Złotovie j Lubčyni zabaronieny ŭ kaściele havaryć kazańni papolsku. Usio heta ŭłady matyvujuć patrebaj «supakoju j publičnaj biaśpiečnaści.“

## Чаму гэта так?

Найбольш лічнымі, найстарэйшымі, сталымі жыхарамі нашага краю зьяўляюцца Беларусы, а на паўночным пагранічны яго— Літоўцы. Сярод Беларусаў жывуць яшчэ Палякі (шляхта, каляністы й ўрадаўцы), Жыды й Расейцы. Расейцы — гэта наплывовы элемэнт з часоў царска-расейскага тут панаваньня. Аднак Расейцы, хоць іх мала, маюць свае арганізацыі, праводзяць сваю дзейнасьць нават на вёсцы, русыфікуючы беларускіх сялян. Зусім інакш у Беларусаў: арганізацыі амаль усе зьліквідаваны адміністрацыйнымі ўладамі й на іх адчыненьне нанава няма дасюль дазволу, а Віленскае Гарадзкое Старасства не давала нават дазволаў на беларускія канцэрты ў Вільні. Расейцы ў тойжа Вільні ладзяць свае канцэрты, прадстаўленьні й арганізуюць сьвяткаваньні ў чэсьць расейскае культуры і г. д. Між іншым 25.VI у Вільні адбылося сьвяткаваньне „Дня Русскае Культуры“, у праграме якога былі 3 рэфараты, выступленьні сьпявака Бэноняга і расейскага хору.

Апрача Расейцаў, не гаворачы ўжо аб Палякох, маюць свае культурна-асьветныя арганізацыі Жыды й Літоўцы. Няма-ж арганізацыйна-культурнага жыцьця толькі ў Беларусаў. А чым напрыклад Расейцы лепшыя за Беларусаў? Чаму адным даецца дазвол, а другім не? На пытаньне гэтае немагчыма знайсьці адказу простага й яснага... І дзеля гэтага душу кожнага Беларуса агартае пачуцьцё вялікае крыўды й жалю.

Глядзіць на гэта ўвесь сьвет. І ня дзіва тады, што паяўляюцца весткі, што некаторыя дзейнікі гэны жаль Беларусаў хочуць выкарыстаць для сваіх мэтаў...

(*„Шл. Мол.“*)

Przesyłka opłacona ryczałtem



*Piśmy ŭ hazetu:*

### Biełarusy ŭ susiedztvie z Palakami

*Vioska Kaściuki*, Biełastockaha pavietu. Naša žyćcio ŭ Kaściukoch cikavaje. Napisać usiu praŭdu ab nas, dyk nia ŭsim heta spadabajecca. Bo ludzi kažuć „praŭda voka kole“. Toje, ab čym ja tutaka pišu, dyk čytačy maje chaj datasujuć nia tolki da našaj vioski, ale j da susiednich ad nas.

Časta zdarajecca ŭ nas, što Biełarus ženicca z Polkaj. Novaja asoba ŭ chacie nia ŭmieje havaryć pabiełarusku. Nia ŭmieje, dyk z pačatku my ad jaje hetaha j nie vymahajem. Horaj, jak i paśla heta asoba robicca takoj uporystaj, što nia choča j nia lubie havaryć pabiełarusku. Jana, kali j na viosku vyjdzie, to z našymi žančynami pabiełarusku nie havora. Hetak jana pražyvie ŭsio svajo žyćcio ŭ našaj vioscy, jak taja łastaŭka ŭ siamji virabjoŭ, nie zahavoračy ani słova pabiełarusku. Takaja sprava, zdajecca, jość małoj, a jana dla nas maje svajo značeńnie. Heta ŭ naša žyćcio ŭnosie niejkuju zusim lišniuju niahładkaść. My viedajem, što takaja žančyna ŭ našaj vioscy nie pierarobię taho, z čym zžyŭšysia my ŭžo viakami. Kaściuki zdaŭna byli biełaruskimi, takimi jany j astanucca.

Kala nas žančyny paturajuć vialikamu zababonu. U nas byvaje hetak, što, jak druhuju spatkaje vialikaje jakoje niaščaście, to jana sama sabie tady zakładaje vialiki post, pakutu. Žančyna tady na Vialikdzień na pieršy dzień ničoha ńia jeść. Usie ludzi jaduć i ciešacca, a jana paścić i sumuje! Hety zababon u nas jość duža stary j pahanizmam jon vielmi pachnie.

Staryja biełaruskija kala nas vioski bahatyja svaim žyćciom i svajej minułaj historyjaj. Uhłyblajučysia ŭ naša žyćcio, my bačym siahońnia biełaruskuju viosku takoj, jakoj była jana najmienš hadoŭ 500 nazad tamu. Skul u nas mohuć być vialikija žyćciovyja pieramieny? U lesie žyli našy prodki, u lesie žyviom i my ciapier.

Astajecca nam uziacca j dobra papracavać nad saboj. Bo biełaruskuju naturu tolki my sami Biełarusy naležna j karysna šlifavać zmožam!...

*V. D.*

### Перастаньце піць гарэлку.

*Варапаева*. Многа пішуць і гавораць аб шкоднасьці гарэлкі для здароўя й кішані, аднак ніхто не перастае яе піць. Аб яе шкоднасьці для здароўя даказваюць лекары, аб немаральным уплыве на людзей выказвае духавенства, а тое, што гарэлка руйнуе гаспадаркі, самі ўсе ведаюць, але піць яе не перастаюць. П'юць гарэлку старэйшыя, п'е моладзь і нават дзеці. П'юць на фэстах, вечарынах, сямейных урачыстасьцях і пры таварыскіх спатканьнях.

У нас апошнім часам здарыўся ад гарэлкі трагічны выпадак. У сьвята Божага Цела 8. VI у нашым касьцеле быў фэст. Моладзь напілася гарэлкі да няпрытомнасьці. У той-жа дзень п'яны чалавек праходзіў праз чыгунку і лёг на шляху аддыхнуць. Маэўруючы цягнік наехаў на нягшчаснага п'янага й парэзаў яго на кавалкі. Дык вось плод п'янства!

Браты, кідайце піць гарэлку. За грошы празначаны на гарэлку выпісвайце газэты й купляйце кніжкі, ды чытайце іх у вольную ад працы часіну. Вы не знайдзеце ні ў адной беларускай газэце і ў кніжцы, каб хвалілі гарэлку. Ведайце, што гарэлка вораг чалавека, а кніжка й газэта—яго прыяцель.

*Мі—ка*

### Bury, hrad, navalnicy j piaruny

U miesiacy červieni sioleta naviedali naš kraj bury, hrad, navalnicy i piaruny. Tak napr. 23. VI nad Słabodzkaj vołaściaj, Brasłaŭskaha pav. praniasłasia strašnaja bura z hradam, jakaja źnistožyła ŭ 70 pracentach zasieŭ. Hrad prajšoŭ takža ŭ Słonimskim pav. 25. VI vializarnaja bura prajšła nad Vilniaj. Złamała jana mnoha dreŭ, raskidała niekalki budynkaŭ, a piarun zabiŭ St. Zingiela, katory słuchaŭ radyjo. U lesie kala Vilni złamanaje buraj dreva zabiła Adolfa Matuseviča, jaki chavaŭsia pad dreva ad daždžu, a jaho žonku tojež dreva mocna pakalečyła. Stratаŭ ad hetaje bury ŭ Vilni naličajuć na niekalki sot tysiačaŭ złotych. Ahułam, piaruny šmat sioleta ŭ našym krai zabili ludziej i narabili pažaraŭ i spustašeńnia.

## Roznyja viestki

**Administracyjnymi karami** ŭ Polščy ŭ 1937-8 budžetnym hodzie abłožany 1.520.079 asob. Z hetaha vynikaje, što kožny 25-ty žychar byŭ administracyjna pakarany.

**Niemcy chočuć vysialić u Polšč 17 tysiač Žydoŭ** i ŭžo hety namier pačali pravodzić. Nadoviačy pryvieźli na hranicu 2.000 Žydoŭ i prykazali im iści ŭ Polšč. Žydy ŭ strachu pierabiehli hranicu, ale spatkalisia z polskimi pahraničnikami, jakija niaščasnych ludziej viarnuli nazad u Niamieččynu. Hazety padajuć, što hetkich niaščasnych ludziej—Žydoŭ—Niemcy vyhaniać až 17 tysiač.

**30 terarystyčnych napadaŭ u adnu hadzinu** ŭ Anhlii dakanana na pošty. Napady byli zarhanizavany tak: u paštovych skrynkach adnačasna ŭ mnohich miascovaściach pačali razryvacca bomby j niščyć usio navokał.

**Jak Niamieččyna padzialiła Eŭropu?** Adna niamieckaja hazeta padaje mapu Eŭropy z takim padziełam dziaržaŭ: 1) Dziaržavy vosi—Niamieččyna, Italija. 2) Dziaržavy pryjaznyja vosi—Hišpanija, Vuhryja, Juhasłavija, Słavaččyna. 3) Dziaržavy neŭtralnyja—Švajcaryja, Litva, Łatvija, Danija, Švecyja, Norvehija, Belhija. 4) Dziaržavy, što akružvajuć Niamieččynu,—Anhlija, Francyja, Tureččyna, Rumynija, Hrecyja j Polšč. Zusim asobna pastaŭleny S.S.S.R., jaki ciapier viadzie pierahavory z Anhlijaj.

**Sami topiacca padvodnyja łodki.** Nadoviačy zatanuła francuskaja padvodnaja łodka „Phoemix“, a ŭ joj 70 asob. U praciahu sioletniej viasny patanuła heta ŭžo 3-ja padvodnaja łodka—špiarša amerykanskaja, paśla anhielskaja, a ciapier francuskaja.

**Rumynija nia choča być čužym „žyćciovym prastoram“.** Niama na śviecie takoha narodu, jaki-b dabravolna zhadziŭsia j śviedama chacieŭ być čužomu narodu „žyćciovym prastoram“. Na heta nia choča zhadzicca j Rumynija. Ministar zahraničnych spraŭ Rumynii nadoviačy ŭ pramovie adznačyŭ, što prastor, jaki źmiaščajecca ŭ hranicach Rumynii, naležyć vykłučna da jaje. Rumynija svajho prastoru budzie baranić usimi siłami.

Padpiska na „Chr. Dumku“: na hod—3 zał., na paŭhodu—1 zał. 50 hr., na try miesiacy—1 zał. Cana asobnaha numaru — 10 hr. Zahranicu padpiska ŭ dva razy daražej. — Adrys Redakcyi i Administracyi: Vilnia (Wilno), Zavalnaja vul. № 1—2.

Redaktor J. POŽNIAK
Рэдактар Я. ПАЗЬНЯК

Wydawca KS. AD. STANKIEWICZ
Выдавец КС. АД. СТАНКЕВІЧ

Drukarnia Białoruska im. Fr. Skaryny, Wilno, Zawalna 1. — Беларуская Друкарня ім. Фр. Скарыны, Вільня, Завальная 1.